# Голас Радзімы

№ 46 (2188)
15 лістапада 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




Мінск. 7 лістапада 1990 года. Святкаванне 73-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Па гэтых двух здымках, зробленых на адной і той жа г[illegible]чы імя Леніна — плошчы дзяржаўных і ўсенародных урачыстасцей, можна меркаваць, як яно праходзіла ў сталіцы.

Горкае гэта было свята. І не таму, што не было паказнога адзінства, траскучых рапартаў працоўных перамог, пустых лозунгаў. Чым бліжэй была гадавіна Кастрычніка, тым усё больш выразным станавіўся раскол у нашым грамадстве: адзначаць яе ці не адзначаць! А калі адзначаць, то як! Як дзень урачыстасцей ці дзень жалобы! Многія грамадскія арганізацыі і іх лідэры аб'явілі Вялікі Кастрычнік насіллем над гісторыяй, нацыянальнай трагедыяй. Для большасці ж людзей, асабліва старэйшага пакалення, Кастрычнік — гэта аб'ектыўны крок да ўвасаблення чалавечай надзеі на сацыяльную справядлівасць, на годнае жыццё без эксплуатацыі і войнаў.

Страсці настолькі накаліліся, што да сваіх суграмадзян вымушаны быў звярнуцца Патрыярх Маскоўскі і Усяе Русі Алексій II. Ён заявіў, што 1917 год — не лішняя старонка ў гісторыі Расіі. Не лішняя і не бессэнсавая, хаця і горкая старонка — і заклікаў усіх, каб дзень 7 лістапада стаў не днём урачыстасцей і днём праклёнаў, а днём роздуму.

На жаль, не ўсе прыслухаліся да яго мудрых слоў. Па гарадах краіны пракаціліся хвалі процістаяння і яўнага экстрэмізму. Не абмінулі гэтыя хвалі Беларусь. У афіцыйнай справаздачы аб святкаванні ў Мінску ёсць некалькі радкоў пра антыкамуністычны мітынг, арганізаваны Беларускім народным фронтам «Адраджэнне». Ён выклікаў неадназначную рэакцыю ў грамадстве.

У сувязі з гэтым Бюро ЦК Кампартыі Беларусі выступіла з Заявай, у якой патрабавала ад урада даць прынцыповую ацэнку тым, хто «сваімі дзеяннем і бяздзеяннем садзейнічаў гэтай антысавецкай акцыі».

Радасць галоўнага дзяржаўнага свята нашай краіны, гаворыцца ў Заяве, была азмрочана імкненнем пэўных сіл стварыць у рэспубліцы псіхалагічную атмасферу нецярпімасці, канфрантацыі, сацыяльнай напружанасці. Альтэрнатыўныя мітынгі і дэманстрацыі, арганізаваныя апазіцыйнымі КПСС сіламі, характарызаваліся антыграмадскімі паводзінамі асобных маніфестантаў. Гучалі заклікі да звяржэння існуючага ладу, насільнага адхілення ад палітычнага жыцця КПСС і КПБ, да грамадскага непадпарадкавання.

Панурае гэта было свята. Яно, на жаль, не стала днём роздуму. Можа ён настане пасля свята!..

Фота Ю. ЗАХАРАВА.



РАДЫЯЦЫЯ

## ШТО БЫЛО ДА ЧАРНОБЫЛЯ?

Сёння мы расплачваемся не толькі за Чарнобыль, але і пажынаем жахлівы плён бездакзазных адносін пры выпрабаваннях атамнай зброі, якія праводзіліся на савецкіх, амерыканскіх і іншых палігонах у 50—60-я гады. Як сведчыць кніга «Глабальныя выпадзенні цэзію-137 і чалавек», выдадзеная яшчэ ў 1974 годзе, але засакрэчаная і недаступная масаваму чытачу, узровень радыяцыі, у якім мы жывём цяпер, існуе, як мінімум, чвэрць стагоддзя. Утварыўся ён у выніку выпрабаванняў атамнай зброі. Прадуктам расшчаплення атама падаць не было куды, як на зямлю.

Цэзій-137, які ўтвараўся ад выпрабаванняў атамных бомбаў у 1963 годзе, і цяпер цыркулюе ў стратасферы і выпадае на Зямлю. Прычым 75 працэнтаў — у нашым, Паўночным паўшар'і.

ЗВАРОТ ПІСЬМЕННІКАЎ

## РАТАВАЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ КУЛЬТУРУ

Вялікая група беларускіх пісьменнікаў звярнулася да Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. Дземянцея, да народных дэпутатаў Беларускай ССР з заклікам ратаваць нацыянальную культуру.

Цяпер на развіццё культуры ў рэспубліцы адпускаецца да васьмі дзесятых працэнта бюджэту, што ўдвая менш агульнасаюзнага мізэрнага паказчыка, гаворыцца ў Звароце. У абставінах вольнага рынку, у які мы ўступаем, тыя два-тры працэнты бюджэтна-фінансавай гарантыі, якую мяркуецца даць, — гэта тыя ж самыя сённяшнія 0,8 працэнта, калі нацыянальная культура можа толькі дыхаць, але не развівацца. Пра гэта сведчыць катастрафічнае становішча, у якім апынуліся беларускамоўныя часопісы, газеты, выдавецтвы.

Пісьменнікі патрабуюць неадкладна прыняць «Закон аб культуры». На гістарычным пераломе нашага жыцця, на шляху шматпакутнага адраджэння нацыі не марудзьце, не дапускайце далейшага паглыблення духоўнага Чарнобыля, заклікае Зварот. Эканоміка, дабрабыт без культурнага ўзнаўлення немагчымыя.

ПАМЯЦЬ

## ДЗЕНЬ ПАЛІТЗНЯВОЛЕНЫХ

30 кастрычніка ў СССР быў Дзень палітзняволеных. Гэта дата шырока адзначалася і ў нашай рэспубліцы.

Увечары, пасля шасці гадзін, каля будынка КДБ БССР сабраліся мінчане і госці сталіцы. Яны ўдзельнічалі ў мітынгу, які быў прысвечаны памяці ахвяр рэпрэсій 30—50-х гадоў. На сцягах— жалобныя стужкі. Выступаўшыя выказаліся за дэмілітарызацыю Беларусі, гаварылі аб іншых праблемах.

Адбылася дыскусія ўдзельнікаў мітынгу з супрацоўнікамі КДБ БССР. Абмяркоўваліся самыя разнастайныя пытанні.

РАШАЮЧЫ САЦЫЯЛЬНЫЯ ПРАБЛЕМЫ





**Прафілакторый «Пралеска» — адно з любімых месцаў адпачынку і лячэння рабочых і служачых аб'яднання «Ваўкавыскцэментнашыфер». Здраўніца мае добра абсталяваныя фізіятэрапеўтычныя кабінеты, залу лячэбнай фізкультуры, установку лазернай тэрапіі, укамплектавана кваліфікаванымі медыцынскімі кадрамі.**

**Сіламі прадпрыемства вядзецца будаўніцтва яшчэ аднаго корпуса прафілакторыя, дзе размесціцца спартыўная зала і басейн.**

**НА ЗДЫМКАХ: прафілакторый «Пралеска»; галоўны ўрач прафілакторыя Алена СЕРГІЕНКА праводзіць курс лячэння з дапамогай лазернай установкі.**

ТРЫВОЖНАЯ СТАТЫСТЫКА

## ЗЛАЧЫННАСЦЬ ПАВЯЛІЧВАЕЦЦА

Судамі рэспублікі абагулены даныя першага паўгоддзя 1990 года. Яны маласуцяшальныя. За гэты час за ўсе віды злачынстваў асуджана 14 290 чалавек (аналагічны перыяд 89-га—11 065). Да выключнай меры пакарання прыгаворана 13 (1989-ты—1), да пазбаўлення волі—4 473, ці 31 працэнт (3 370), да папраўчых работ—3 943, асуджана ўмоўна—1 104.

Больш за ўсё адпраўлена за краты мінчан, жыхароў Брэсцкай, Гомельскай і Віцебскай абласцей. У цэлым колькасць судзімасцей узрасла на 29 працэнтаў. Пры гэтым за ўсе віды крадзяжоў дзяржаўнай і грамадскай маёмасці яна павялічылася ў 1,3 раза, злачынствы супраць прыватнай уласнасці ў 1,4 раза, згвалтаванні ў 1,3, спекуляцыю ў 1,4, за злачынствы супраць работнікаў міліцыі ў 2,8 раза.

За супраціўленне работнікам міліцыі ў першым паўгоддзі 1990 года асуджана 160 чалавек (да пазбаўлення волі—38)—у два разы больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года.

*«Яшчэ пяць гадоў назад мы спадзяваліся абмежавацца карэннымі зменамі асобных бакоў грамадскага ладу, не перайтвараючы сістэму ў цэлым. Сёння ўсе — і «нізы», і «вярхі»—бачаць, што сацыялізм у яго сталінскай і неасталінскай інтэрпрэтацыі поўнасцю дыскрэдытаваны. Старое грамадства аказалася нежыццяздольным. У яго няма перспектыў, і таму яно патрабуе замены.*

*Сёння трэба сумленна і шчыра сказаць, што і эканамічны, і сацыяльны прагрэс больш прыкметны ў грамадствах заходняга тыпу. Шэраг сацыялістычных ідэй і прынцыпаў, сфармуляваных мысліцелямі і тэарэтыкамі мінулага, увасоблены там у жыццё паўней і паслядоўней, чым у нас. На Захадзе таксама існуе дзяржаўная і калектыўная ўласнасць, прычым удзельная вага апошняй паступова расце. Прымяняецца там і планаванне, грамадзяне надрэнна забяспечаны ў сацыяльных адносінах, ды і крызісы як быццам сталі здабыткам гісторыі.*

*З гэтага можна зрабіць вывад: трэба адкідаць сацыялістычныя ідэі і ідэалы, прызнаць, што чалавецтва іх рэалізуе, але не заўсёды ўдала. У СССР і ўсходнееўрапейскіх краінах гэта быў тупіковы варыянт: лічачы, што будуем сацыялізм, мы на самай справе вярнуліся да паўфеадальных форм. Не трэба думаць, быццам сацыялізм можа ўзнікнуць толькі ў выніку рэвалюцыі. Р... да яго можа адбывацца і эвалюцыйным шляхам, прыклад чаго падаюць некаторыя заходнія краіны».*

*(А. БАГАМОЛАЎ, дырэктар Інстытута эканомікі сусветнай сацыялістычнай сістэмы АН СССР).*

УРАЧЫСТАСЦІ

## ШКОЛЕ — 120 ГАДОЎ

У Стрэшынскай сярэдняй школе завяршыўся святочны тыдзень, прысвечаны 120-гадоваму юбілею.

Яшчэ ў 1870 годзе ў Стрэшыне па распараджэнню магілёўскага губернатара было адкрыта народнае вучылішча з трохгадовым тэрмінам навучання. Тады воласцю ў мясцовых жыхароў былі куплены дзве прасторныя хаты. Адна з іх, у якой размяшчаліся класы, стаіць і сёння, а другая, дзе жыў першы настаўнік, на жаль, не захавалася. У 1913 годзе на сродкі Рагачоўскага земства было пабудавана новае памяшканне. Вучылішча ператорана ў двухкласнае, з шасцігадовым тэрмінам навучання.

Зараз Стрэшынская СШ займае прыгожы трохпавярховы будынак.

ДЗЯРЖАВА І РЭЛІГІЯ

## ХРАМ У КОБРЫНЕ

Зноў загучалі званы сабора Аляксандра Неўскага ў Кобрыне. Пабудаваны ў шасцідзесятыя гады мінулага стагоддзя на месцы брацкай магілы рускіх воінаў, якія загінулі ў вайне 1812 года, храм стаў помнікам доблесці і славы.

Сабор напаткаў лёс многіх тысяч праваслаўных цэркваў краіны. У пачатку шасцідзесятых XX стагоддзя ён быў закрыты і перададзены ўладам пад філіял дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобласці. А калі храм нарэшце вярнулі законным гаспадарам, тыя яго рэканструявалі.

Толькі за апошнія два з паловай гады на Брэстчыне адкрыта 67 праваслаўных цэркваў, 12 рымска-каталіцкіх касцёлаў, дадзены дазвол на будаўніцтва і рэканструкцыю 25 малітоўных дамоў евангельскіх хрысціян-баптыстаў, пяцідзесятнікаў і адвентыстаў 7-га дня

«МІНСКІ КІРМАШ-90»

## АДРАДЗІЦЬ БЫЛУЮ СЛАВУ



**У беларускай сталіцы прайшоў «Мінскі кірмаш-90». Удзел у ім прынялі каля 600 гандлёвых арганізацый і прадпрыемстваў, больш 60 з іх — замежныя. Вялікую зацікаўленасць у гэтым мерапрыемстве праявілі фірмы Балгарыі, В'етнама, Егіпта, Польшчы, Італіі. На кірмашы ў выставачным комплексе Гандлёва-прамысловай палаты БССР былі шырока прадстаўлены тавары штодзённага попыту, сельскагаспадарчая прадукцыя, адзенне і іншае.**

Такога буйнога кірмашу ў Мінску яшчэ не было. На яго ўскладваліся вялікія надзеі. Прычым, кожная фірма ці арганізацыя праследавала свае мэты. У адным выпадку скарыстоўвалася магчымасць прадаць даражэй ці толькі за валюту дэфіцытны тавар, у другім — наладзіць бартэрныя здзелкі, у трэцім — заключыць пагадненне на стварэнне сумесных прадпрыемстваў. Апошняе для нашага рынку асабліва важна. Першыя вопыты, напрыклад, фірмы «Белаграпол», у якую ўваходзяць з польскага боку «Агронас» з Гданьскага ваяводства і з беларускага — магілёўская гаспадарка «Садружнасць», паказваюць, што агульнымі намаганнямі можна з поспехам змагацца з дэфіцытам. Сёння «Белаграпол» амаль поўнасцю забяспечвае насельніцтва рэспублікі ранняй бульбай, насеннем кветак, травы, агародніны. Ці не таму тут, на кірмашы, сваю прадукцыю сумесная фірма прадала ў Казахстан, Сібір...

Дзелавыя людзі поўнасцю скарысталі гэтыя восеньскія дні ў Мінску. Аб'ём камерцыйных аперацый склаў 500 мільёнаў рублёў. Гэтая лічба не канчатковая, бо заключэнне здзелак працягваецца і па сёння.

У той жа час нельга не спыніцца і вось на чым. Кірмаш не задаволіў многіх мінчан. Па задуме, па рэкламе і публікацыях у друку ўсе экспанаты жыхары горада маглі купіць. Гэта не адпавядала рэчаіснасці. Так, нейкія рэчы прадаваліся. Пыласосы, электраміксеры яшчэ можна было набыць, хаця каштавалі яны ў 2—3 разы даражэй звычайнага. Але хто мог купіць прычэп да легкавога аўтамабіля за 12 тысяч долараў?..

Не спраўдзіліся надзеі пакупнікоў і на набыццё абутку, адзення. Усяго некалькі латкоў універмагаў «Беларусь» і ГУМ выехалі на кірмаш з даволі бедным асартыментам, у асноўным з вырабамі кааператараў.

Затое аграфірмы зрабілі самае прыемнае ўражанне: яблыкі і грушы, рэпчатая і зялёная цыбуля, бульба, памідоры, морква і іншая агародніна, павідла, сокі і нават шампіньёны — усё гэта прыцягвала пакупнікоў да аператыўна разгорнутых, святочна аформленых прылаўкаў. Цэны былі часцей дагаворныя, але зусім умераныя. Так што канкурэнцыю знакамітаму беларускаму рынку на Камароўцы павільёны і ларкі ў гэты дзень склалі.

Многія прадпрыемствы скарысталі кірмаш для наладжвання прамых сувязей. Нярэдка здзелкі, якія цяпер прынята называць бартэрнымі, былі даволі вузкімі, прыносілі ці, дакладней сказаць, прынясуць карысць аднаму прадпрыемству. Скажам, за халадзільнікі, тэлевізары, трактары і іншыя тавары замежная фірма будзе пастаўляць пэўнаму заводу цэмент для будаўніцтва дач работнікаў прадпрыемства.

Усяго тры дні доўжыўся кірмаш. Прэзідэнт гарадскога Саюза малых прадпрыемстваў, кааператываў і прадпрымальнікаў, старшыня пастаяннай камісіі Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў В. Карагін сказаў: «Калісьці Мінск стаяў на бойкім перакрыжаванні гандлёвых шляхоў. І цяпер мы хацелі б адрадзіць былую камерцыйную славу».

Што ж, калі меркаваць па задуме — арганізоўваць кірмашы ўвосень і вясной — добрая справа будзе адроджана, прынясе плён.

**НА ЗДЫМКУ: ля экспазіцыі польскага прадпрыемства знешняга гандлю «Універсал».**

АКТУАЛЬНОЕ В ПРЕССЕ

# «ПОКА ЕЩЕ НЕ ПОЗДНО»

Так называлась статья Майкла Давидоу, опубликованная в газете «Советская Россия». Имя этого американского писателя и публициста хорошо известно в нашей стране, где он жил и работал более 10 лет. Он часто бывал в Белоруссии, откуда родом его предки, много ездил и писал о нашей республике.

В этом году Майкл Давидоу присутствовал на XXVIII съезде КПСС и Учредительном съезде Компартии РСФСР, где, как он пишет, «не только стал свидетелем честного, критичного и самокритичного анализа кризиса, поразившего партию и СССР», но принял участие в многочисленных дискуссиях с делегатами, приехавшими из различных регионов страны. В статье «Пока еще не поздно» Майкл Давидоу как бы продолжает обсуждать ситуацию, сложившуюся в партии и государстве. В его рассуждениях есть трезвый взгляд на вещи, которого порой не хватает нам самим, предостережение не бросаться бездумно в крайности, не спешить отрекаться от прежних ценностей и идеалов.

В КПСС, в Компартии РСФСР и в целом в Советском Союзе прослеживаются три течения: левое (настоящее), центристское и правое (ошибочно именуемое левым).

Мне кажется, говорит М. Давидоу, что именно сейчас ЦК и Политбюро КПСС должны сыграть объединяющую роль и отбросить все попытки создания правоцентристского альянса без участия левых. Корабль Советского государства дрейфует, и его необходимо спасти! Советский народ никогда не простит партии, если в этот час, когда столь необходимо единство, моряки, вместо того чтобы спасать корабль от угрозы катастрофы, начнут выяснять отношения между собой.

И в это же время, с горечью отмечает автор статьи, в прессе и по телевидению чуть ли не героями представляются члены партии, покинувшие ее. Путь, пройденный по дороге политического плюрализма, оказался весьма странным. От социалистического плюрализма к односторонним массированным атакам экс-коммунистов на партию. Коммунистам уже открыто угрожают, на партийные здания совершаются нападения. В Прибалтике члены партии превратились в объект дискриминации и травли, с чем мы, американские коммунисты, знакомы очень хорошо, но никогда не могли себе даже представить, что это может происходить в вашей стране.

И тем не менее все это не стало тревожным сигналом. Как будто партия находится над схваткой за партию. А ведь битва за партию есть битва за перестройку и социализм. Без КПСС они обречены. Одностороннее, очернительское изображение истории партии подтолкнуло антипартийные, антисоветские силы к призыву о проведении Нюрнбергского процесса над КПСС!

Публичные выходы из КПСС, которые сейчас в такой моде, — это прилюдное издевательство над партией, искажение ее истории, попытка дискредитировать социализм.

Ни одна партия в мире не смогла так честно признать свои ошибки и сделать так много для их предотвращения в будущем, как КПСС. Но есть черта, за которой покаяние превращается в своеобразный мазохизм. Этот рубеж, как мне кажется, уже перейден, и вирус самобичевания заразил очень многих людей в СССР, особенно среди интеллигенции. Если перестройка — это революция, то в ней должен присутствовать самый необходимый элемент всякой революции — ее дух! Однако, кажется, делается все для того, чтобы достичь обратного: составляется бесконечный список ужасов, ошибок, преступлений, совершенных за 70 лет советской истории. И в то же время завесой оглушающего молчания закрывается то, что десятки миллионов людей в мире рассматривают как ваши исторические достижения. Одновременно наблюдается идеализация «свободного предпринимательства». Можно спросить: «Почему»?

Наше отношение к рынку, на пороге которого стоит Советский Союз, вызывает недоумение у американского журналиста. Он считает, что мы подходим к нему либо с эйфорией, либо с чувством обреченности. А самое обидное, что модель для будущего ищут исключительно на Западе, как будто 73 года Советского государства ничего не могут предложить. Социалистическую экономику постигла судьба советской истории, которая искажена односторонним негативным освещением. Что касается экономики, то от нее нельзя отказываться из-за некомпетентного управления, от которого она так пострадала. За эту некомпетентность нельзя винить социализм, ведь это то же самое, что обвинять хороший автомобиль за то, что за рулем плохой водитель.

Мне кажется, что в видении рынка в СССР преобладает эклектический, а не диалектический подход. Почему рынок, регулируемый или нет, должен обязательно копировать капиталистический рынок? Почему не может существовать социалистический рынок?

Если монополистический капитал может регулировать свой рынок в интересах богатых, почему СССР не может установить свои **собственные правила** для сохранения самого характера своего общества? Мне кажется, что именно это имеют в виду советские люди, требуя гарантии защиты своих социальных прав: права на работу по своей специальности, на бесплатное медицинское обслуживание и образование, сохранение самой низкой в мире квартплаты, продолжение самой широкой в мире жилищной программы, которая сделала силуэт строительного крана таким же символом советского общества, как серп и молот. И самое главное — это означает «нет» отходу от одного из величайших достижений социалистической революции — **планового общества, плановости.** Именно эта черта советской жизни, представленная словом «пятилетка», которое, как и «перестройка», не нуждалось в переводе, привлекло к СССР во времена великой депрессии миллионы американцев, включая цвет нашей интеллигенции.

«Социалистический рынок может избежать самого болезненного и несправедливого **дефицита** из всех, порожденных капитализмом и его рынком: **дефицита на столе при множестве магазинов, в которых есть все, что хочешь, но нет возможности это купить.** Нет большей несправедливости, чем несправедливое распределение богатства, созданного рабочим человеком. Это и есть суть капиталистического общества, где президент конгломерата зарабатывает в 200 раз больше рабочего, производящего материальные ценности. И тем не менее эта несправедливость «свободного предпринимательства» игнорируется ориентированными на капитализм «радикалами» в СССР, которые утверждают, что стремятся к справедливому, гуманному обществу».

ПО ЧУЖИМ СТРАНИЦАМ

# «ПАМЯТЬ»—МИФ?

По-моему, никакой «Памяти» нету, то есть ее сторонников меньше, чем членов общества плоской Земли, меньше, чем абонентов филармонии в Афуле или в Литтл-Роке...

Я рад за нашу израильскую эссеистку Майю Каганскую, которой удалось пробить в Иерусалимском университете тему по русскому национализму — вопреки ее предсказаниям, русский национализм в упадке и практически не существует. Пресловутая «Память» — в основном плод мифотворчества — каждому она нужна по своим расчетам. Для «уезжантов» — это хороший довод и объяснение отъезда (колбаса — довод некрасивый), для «огоньковцев» — это живой, готовый и понятный образ врага. Реально «Память» существует как общество сторонников гипотезы плоской Земли, то есть совершенно маргинально. Национализма в России куда меньше, чем в Америке. Подумайте — Америка (ну, не вы лично, но большинство) рукоплескала вторжению в Панаму и бомбежкам Триполи. Россия рукоплещет выводу войск из Афганистана и Чехословакии и освистывает генерала Родионова.

Это, конечно, понятно, потому что я считаю национальный фанатизм вещью болезненной, но тут русские немного перегнули палку. Они видят свой сегодняшний день в слишком мрачном свете, а прошлое — как черную ночь. Во всех газетах (за исключением нескольких малотиражных националистических) — самые унылые сравнения России с прочим миром. «Мы дерьмо,—такой их рефрен, — а все остальные молодцы». Немного самоуничижения никому не вредит, но здесь его слишком много даже для нас, эмигрантов.

**Исраэл ШАМИР.**
**«Панорама» (США).**



**Минск вечерний.** **Фото В. АЛЕШКЕВИЧА.**

ПОИСКИ, ГИПОТЕЗЫ, ОТКРЫТИЯ

# СОЛНЕЧНЫЕ ВОЖЖИ ДЛЯ ПЕГАСА

Как бы мы ни уповали на стабильность профессионализма, все же каждому художнику, несомненно, знакомы периоды спада и взлета. Чем они обусловлены? Можно, конечно, все списать на казуистику психологии творчества. Но не менее интересно попытаться отыскать общие закономерности. Такую попытку сделал советский исследователь из города Кирова Виталий Логинов (к сожалению, уже ушедший из жизни). Он, в частности, доказал, что солнечная активность влияет не только на здоровье человека, но и на его творческие возможности.

Влияние Солнца на биологические системы — тема для науки не новая. Есть в ней и достижения, признанные во всем мире. Так, замечательный советский ученый профессор Александр Чижевский, заложивший основы гелиобиологии, изучив средневековые летописи Аугсбурга, построил кривую вспышек эпидемий чумы в этом городе на протяжении нескольких веков; совпадение с кривой солнечной активности произвело сенсацию в науке.

Но это все биология. Ей вроде бы по статусу положено подчиняться природным закономерностям. Но творчество — процесс, связанный, как мы привыкли думать, преимущественно с интеллектуальным потенциалом личности, — тоже только биология?

Разумеется, все не так просто. Научный сотрудник лаборатории биотехнических проблем Кировского политехнического института В. Логинов это понимал и рассматривал результаты своей работы прежде всего как информацию для размышлений. Они, несомненно, последуют. В довольно уже длинный ряд явлений, обнаруженных гелиобиологией (кроме упомянутых в нем такие, как ускоренный рост некоторых растений, нарушения хода физико-химических реакций, способность водорослей восстанавливать нитраты, травматизм, аварии на дорогах и т. д.), ученый добавил очень необычный элемент — потенциал творчества. Логинов не абсолютизировал полученные им результаты, видел их спорность и необычность. Однако он строил свои выводы не на домыслах, а на конкретных исследованиях.

...Болдинская осень 1830 года — самый плодотворный период творчества Пушкина — была в разгаре. Каждый новый день радовал очередным свершением. «Докажу тебе, моему владельцу, — писал Пушкин А. Дельвигу, другу и издателю своих стихов, — что нынешняя осень была детородна, и что коли твой смиренный вассал не околеет... то в замке твоем, «Литературной газете», песни трубадуров не умолкнут круглый год».

Но и в жизни гения были мрачные времена ...ссилия и застоя. Четыре года спустя Александр Сергеевич писал жене: «Скучно, мой ангел. И стихи в голову нейдут; и роман не переписываю».

Логинов задал себе вопрос очень простой и в то же время необычный: один ли только Пушкин испытал в 1830 году мощный прилив творческих сил, а в 1834-м — неожиданный спад? Ведь, как известно, одновременно с ним жила и творила плеяда выдающихся литераторов. Как проверить?

Исследователь выбрал простой и естественный путь: стал подсчитывать, сколько страниц текста в полных собраниях сочинений современников Пушкина датировано каждым годом в пределах 1830-х. Список имен не оставлял сомнений в полноценности литературного качества исследуемого материала: Жуковский и Одоевский, Крылов и Кольцов, Лермонтов и Тютчев.

Что же получилось? 1830-й был годом резкого повышения активности Солнца. Логинов проследил кривую изменения чисел Вольфа (показатель активности Солнца): 1831-1833 годы — спад гелиомагнитных возмущений. И в 1834-м — минимум. А в 1837-м — новый всплеск. Абсолютно то же и в творчестве всех названных литераторов (кроме Пушкина, погибшего в начале 1837 года).

В исследованиях Логинова выборку составили более пятидесяти писателей разных времен. Корреляция отчетливо заметна. Правда, период творческой активности у разных авторов колеблется от полутора до семи лет, но максимальные пики совпадают практически у всех.

Как правило, через два года на третий происходит повышение функциональных возможностей человека (это, к примеру, блестяще подтверждается многолетним изучением физических кондиций сильнейших спортсменов, которое ведется в Ленинградском НИИ физической культуры под руководством В. Шапошниковой). Искусство не спорт. Однако, выходит, большой спорт и большая литература подчиняются сходным закономерностям?

И наука, изобретательская деятельность... Логинов составил график творческой активности московского изобретателя И. Остряксва, за тридцать лет подавшего больше 500 заявок на изобретения. Пики вдохновения совпали с вершинами на кривой чисел Вольфа.

**Савелий КАШНИЦКИЙ.**

*НЕЮБІЛЕЙНЫЯ МАНАЛОГІ З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ КУПАЛАЎСКАГА ТЭАТРА*

# АДРАДЖЭННЕ? АДНАЎЛЕННЕ? СТВАРЭННЕ НАНОВА?

**18 кастрычніка Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы адсвяткаваў сваё 70-годдзе. На ўрачысты вечар з нагоды такой падзеі прыехалі артысты і рэжысёры з саюзных рэспублік, замежныя госці. Было сказана нямала цёплых і шчырых слоў у адрас купалаўцаў, сапраўды адметнага тэатральнага калектыву, славутага такімі зоркамі, як Г. Глебаў, В. Платонаў, Л. Ржэцкая, Л. Рахленка, С. Станюта, Г. Макарава... Ніяк не магла абысці такую падзею і наша газета. Мы думалі, якім чынам адзначыць нам гэты юбілей. Змяшчаць артыкул з панегірыкамі ў гонар першага прафесійнага беларускага тэатра сёння проста неяк няёмка. Дык, можа, найлепшы спосаб адзначыць юбілей — сканцэнтравацца на праблемах! Вырашылі прадставіць свае старонкі тым людзям, якія вельмі любяць тэатральнае мастацтва. Спадзяёмся, што іх маналогі дапамогуць вам, шаноўныя чытачы, найлепш уявіць, як ідуць справы ў галоўным тэатры Беларусі.**

### Здзіслаў СТОМА, народны артыст СССР.

Купалаўскі тэатр — мой лёс. Яму аддадзена ўсё жыццё. Прыйшоў у трупу ў пачатку саракавых, калі працавалі навыя карыфеі... Я маліўся на іх, бо гэта сапраўды былі апантаныя людзі, энтузіясты. А першыя крокі! Першы беларускі прафесійны тэатр узнік на хвалі нацыянальнага адраджэння. Яго першымі акцёрамі, як вядома, былі аматары з розных гурткоў, клубаў, студый. Адно ва ўсіх было жаданне — даць Беларусі свой тэатр. На гэтым трымаліся. А час тады быў зусім нялёгкі. Рэпеціравалі ў рэсторане «Парыж», а заработную плату атрымлівалі салёнай рыбай і бульбай. Дзеля Бацькаўшчыны, дзеля Беларусі, у імя святой ідэі працавалі.

Колькі ўсяго пераджыта разам з гэтым калектывам... Хаця я ўжо і пакінуў сцэну — мне 83 гады, — па-ранейшаму бываю ў тэатры: хаджу на спектаклі, на рэпетыцыі, ды і проста іншым разам заглядваю, каб убачыць сяброў, пагутарыць з моладдзю.

Думкі часам у мяне невясёлыя ўзнікаюць. Адчуванне такое, быццам нешта вельмі важнае страчана тэатрам. Што страчана? Нейкі дух, я б сказаў, апантаныя беларускасці, годнасці нацыянальнай, інтэлігентнасці. Многія акцёры ў побыце зусім не карыстаюцца роднай мовай, таму і на сцэне яна ў іх нежывая, штучная. Я разумею, што тэатр не адарваны ад жыцця, і ўсе тыя складаныя працэсы, што адбываюцца ў грамадстве, адбіваюцца на творчым самаадчуванні купалаўцаў. Людзі творчых прафесій цяпер у нас далёка не ў пашане. Маўляў, яны не ствараюць матэрыяльных каштоўнасцей...

Надта балюча, крыўдна бачыць, што наш тэатр сёння страціў свайго гледача. А яго ж некалі вельмі любілі. Былі заўзятыя тэатралы, якія не прапускалі ніводнага спектакля з удзелам любімага акцёра. Была атмасфера свята ў тэатры.

### Генадзь ДАВЫДЗЬКА, артыст тэатра імя Янкі Купалы.

— З размахам святкавалі купалаўцы свой юбілей. Госці пахвальвалі, адзначаючы заслугі, дасягненні... А мне было неяк нядобра. Бо стан спраў у тэатры ведаю знутры. Чамусьці напрошвалася такое параўнанне з гэтым юбілеем: у труне ляжыць нагрыміраваны труп, а прысутныя святкуюць яго дзень нараджэння, бесклапотна весяляцца. Надта ўжо накіпела на душы за тыя восем гадоў, што працую ў трупе. Ад абагаўлення тэатра прыйшоў да цвярозага разумення яго сапраўднага становішча. Я ў тэатры — прадстаўнік малодшага пакалення. Тое-сёе ўжо ўмею, ёсць жаданне працаваць. Але адбываюцца парадаксальныя рэчы: той,




хто многа заняты ў рэпертуары, — найгорш забяспечаны матэрыяльна, зарплата ж у артыстаў зусім невялікая. Акцёры трупы, якія маюць магчымасць яшчэ і выступаць на радыё, тэлебачанні, — у лепшым становішчы. Вось і [illegible]ымліваецца бязглуздзіца. [illegible] толькі ў мяне асабіста, але і ў маіх равеснікаў — у акцёраў узнікае адчуванне непатрэбнасці сваёй працы. І не толькі з-за нізкага прэстыжу прафесіі ў нашым грамадстве. А [illegible] ў многім і з-за гледача. Ча[illegible]акога абыякавага, бескультурнага...

У купалаўскім тэатры сабраны лепшыя акцёры — гэта факт. Як факт і тое, што далёка не ўсе з іх выкарыстоўваюцца найлепшым чынам на сцэне. Наш тэатр — гэта дзіця талітарнай сістэмы. Пабудова тэатра, самой трупы нясе на сабе адбітак пабудовы ўсяго грамадства. Ён ніяк не можа перабудавацца сам. Можа, таму пайшлі адсюль акцёры Крыжаноўскі і Лясны, якія цяпер працуюць у тэатры сатыры і гумару «Хрыстафор». Знайшлі лепшае прымяненне сваім здольнасцям. Цяпер жа многа розных тэатраў-студый, яны атрымліваюць гастролі, ставяць цікавыя п'есы. Узнікае малады тэатральны этнас. У нас жа ён стары. Няма і прытоку маладых артыстаў, абнаўлення крыві, як кажуць.

Не думайце, што я расчараваўся ў сваёй прафесіі, у тэатры, увогуле ў мастацтве. Не, не і не. Тэатр — найвышэйшае з усіх відаў мастацтва. Я расчараваны ў нашым часе, у нашым грамадстве.

На вялікі жаль, я не бачу перспектывы развіцця купалаўскага тэатра. Таму, натуральна, ёсць думкі пакінуць яго, паспрабаваць сябе на іншай сцэне.

### Жанна ЛАШКЕВІЧ, журналіст.

Не лічу сябе прафесійным крытыкам і тэатразнаўцам. Але працяглы час, як журналіст, займаюся тэатрам. Мае меркаванні могуць здацца некаму спрэчнымі. Але гэта мае асабістыя думкі, спроба аналізу, нетрадыцыйнага падыходу да традыцыйных рэчаў. Галоўная з іх такая: калі перад беларускай культурай стаіць праблема адраджэння, дык перад тэатрам — праблема аднаўлення, а можа і стварэння нанова. Бо нацыянальнага тэатра ў нас, па сутнасці, няма. Вонкава нацыянальным ён, магчыма, і з'яўляецца — там ручнікі, лапці, іншы беларускі антураж у спектаклях.

Увогуле на Беларусі здавён быў свой прафесійны тэатр. Пра гэта сведчаць гістарычныя дакументы, пра гэта пішуць і навукоўцы. Але мы не мелі свайго Станіслаўскага, Міхаіла Чэхава, такога арганізатара тэатральнай справы як Неміровіч-Данчанка. І вось пасля абвяшчэння дзяржаўнасці ў 1919 годзе ўзяліся за стварэнне нацыянальнага тэатра. Была ідэя, былі акцёры. Ад чаго адштурхоўвацца тэатру? Што цяпер адраджаць? Якія традыцыі захоўвае наш галоўны тэатр? Традыцыя існуе толькі тады, калі яна жывая. А на сённяшні дзень купалаўскі тэатр мёртвы, закасцянелы. Няхай не крыўдуюць акцёры, рэжысёры. Тэатр, як і людзі, жыве пэўны век. І памірае. Смерці гэтай не трэба палохацца. Гэта зусім нармальны працэс. Гісторыя ж купалаўскага тэатра павучальная. Яна неадрыўна звязана з гісторыяй усёй нашай дзяржавы. Акрамя «Тутэйшых» і «Паўлінкі» былі ў яе рэпертуары і такія спектаклі, што працавалі на ўмацаванне сталінскага рэжыму. Выдатнае акцёрскае і рэжысёрскае майстэрства дапамагала замацоўваць і ідэалізаваць у свядомасці людзей тую жудасную рэальнасць, калі ажыццяўлялася так званае раскулачванне сялянства, генацыд супраць уласнага народа. Тэатр хлусіў. Акцёры хлусілі. Тэатр навязваў гледачу тую хлусню, якую яму навязвала грамадства. Грамадская хлусня ператварылася ў хлусню мастацкую.

Якая ж перспектыва? На маю думку, беларускі нацыянальны тэатр народзіцца не ў прафесійным асяродку, а мабыць на скрыжаванні нейкай апантанасці нацыянальнай ідэяй і, з другога боку, — тэатральнай ідэяй. Што я тут маю на ўвазе? Мабыць, прафесійнасць прыйдзе з прафесійнага тэатра, а нацыянальная ідэя, можа, з тэатра-студыі, а, можа, і з непрафесійнага тэатра. Таму што свету мы цікавыя сваім асабістым, непаўторным. І яно ў нас ёсць.

Існуе такая думка, што нацыянальны тэатр можна будаваць толькі на нацыянальнай драматургіі. Гэта не так. Нацыянальны тэатр можна рабіць і на лепшай сусветнай драматургіі. Гэта адзін са шляхоў.

Калі мы сур'ёзна гаворым пра стварэнне нацыянальнага беларускага тэатра, то варта, на мой погляд, звярнуць больш пільную ўвагу на Батлейку. Гэта той матэрыял, на якім мог бы грунтавацца наш тэатр. Натуральна, не лялькі выносіць на сцэну. А сам дух імправізацыі, іроніі і самаіроніі пераняць. Беларускай нацыянальнай адзнакай магло б зрабіцца непрыманне ўсіх і ўсякіх багоў, такое душэўнае паганства, своеасаблівая шчырасць, калі акцёр кідаў свае рэплікі ў залу, звяртаўся да гледача.

### Анатоль САБАЛЕЎСКІ, доктар мастацтвазнаўства.

Купалаўскі тэатр мы называем першай сцэнай, акадэмічнай. Гэта заканамерна. І ён павінен быў бы займаць вядучае месца ў культурным жыцці Беларусі. Як універсітэт, бібліятэка... Розныя перыяды былі ў тэатра. У 20-я гэта быў тэатр пісьменнікаў. Дарэчы, «Тутэйшых» узяліся ставіць, каб не пасварыцца з Купалам. Купала ж тады літаральна прападаў у тэатры, сачыў за мовай акцёраў... Былі часы і непагодлівыя. Я б не сказаў, што сёння яны дужа спрыяльныя.

У 20—30-я гады купалаўскі тэатр пацярпеў, а далей ён быў у прывілеяваным становішчы, амаль што па-за крытыкай. У наш час, калі ідзе працэс кансалідацыі нацыі і яе адраджэння, асабліва важная роля гэтага тэатра. На жаль, у культурным жыцці Беларусі славуты купалаўскі не адыгрывае вядучай ролі. Узяць той жа Саюз пісьменнікаў, Саюз мастакоў. Калі параўнаць, што адбываецца там, то стане яшчэ больш адчувальным разрыў.

Справа ў тым, што агульны працэс дэнацыяналізацыі, які на працягу доўгіх гадоў адбы[illegible]ўся ў рэспубліцы, самым ад[illegible]вальным чынам адбіўся на [illegible]іх духоўных сферах, і канкрэтна — на тэатры. На акцёрах, на рэжысёрах адпаведна. Нацыянальнае сціралася, вынішчалася, абязлічвалася. Прыносілася ў ахвяру нейкаму за[illegible]каваму інтэрнацыянальнаму. [illegible] дачыненні да купалаўскага тэатра вынікі вельмі несуцяшальныя. І папраўляць становішча тут давядзецца доўгія гады.

Я бачыў балючыя падзенні і ўзлёты купалаўцаў. Але апошнія яго работы даюць падставу думаць, што зрухі ёсць. Гэта «Радавыя» Дударава, «Страсці па Аўдзею» Бутрамеева і «Тутэйшыя» Купалы. Асабліва хачу спыніцца на «Тутэйшых». Напісаная ў пачатку стагоддзя, п'еса аказалася надзвычай актуальнай сёння, у канцы таго ж стагоддзя. Тыя ж праблемы, тое ж балючае нацыянальнае пытанне. Спектакль атрымаўся не кан'юнктурным. Ён закранае глыбінныя праблемы.

Заўсёды слаўны быў купалаўскі тэатр акцёрамі. Першае яго пакаленне — гэта амаль што легенда. Зоркі, карыфеі, майстры. У сярэднім пакаленні неяк цяжка вылучыць асобныя імёны. Але яно моцнае, гэтае пакаленне, яно можа весці рэпертуар. Справа з маладзейшымі амаль што катастрафічная. На іх долю выпаў нетэатральны час. Больш таго, насоўваюцца рыначныя адносіны. Яшчэ больш жорсткімі стануць умовы для творчага чалавека. Як у такіх умовах вярнуцца да духоўнасці? Што нас чакае ўперадзе? Я не магу адказаць на гэты пытанні. Але толькі духоўнасць можа вярнуць нас у нармальны чалавечы стан. І хаця з аднаго боку ідзе нацыянальнае абуджэнне, з другога — наступае рынак, гандаль, рубель, продаж... Цывілізаваныя краіны прайшлі праз гэта, але захоўваюць сваю душу. Непрадказальныя вынікі чакаюць нас. Бо ў нас краіна спецыфічная, і людзі спецыфічныя.

### Мікалай ПІНІГІН, рэжысёр тэатра імя Янкі Купалы.

Не так ужо і даўно я працую ў купалаўскім тэатры, недзе каля шасці гадоў. Тут добрая трупа, ёсць з кім працаваць — выдатныя акцёры. І яшчэ — тут захоўваецца нейкая асаблівая творчая атмасфера. Таямніца тэатра.

Хлеб тэатра — гэта драматургія. А яе няма. Хіба што адзін Дудараў... Макаёнка, напрыклад, ці Крапіву, я б увогуле ніколі не ўзяўся ставіць. Таму што гэта ўзровень нізкі і мастацкі, і чалавечы. Заняпад беларускай культуры не мог не адбіцца на тэатры. Сённяшняе становішча нашага тэатра № 1 адлюстроўвае наогул усе працэсы, якія адбываюцца ў рэспубліцы. Бо тэатр — гэта дзіця часу. А час паставіў вельмі востра перад намі праблему нацыянальнай самасвядомасці народа, яго адраджэння. І аб гэтым трэба гаварыць, біць ва ўсе званы, бо працэс дэнацыяналізацыі можа стаць незваротным. Дзякуй, выратаваў Купала. Яго п'еса «Тутэйшыя» якраз



пра гэта: хто мы? Скуль мы? Якога роду? Канструктыўна яна добра напісана, але ж мастацкія вартасці далёка не на ўзроўні. Пасля «Тутэйшых» я, шчыра кажучы, у роспачы. Няма чаго ставіць. Як рэжысёр, я сёння звярнуўся б да гісторыі. З задавальненнем паставіў бы п'есу аб падзеях у Вялікім княстве Літоўскім. Але яе няма.

Скажу яшчэ, што для тэатра, як і для ўсяго народа, павінна існаваць вялікая нацыянальная мэта наперадзе. Духоўная мэта таксама, да якой трэба імкнуцца. Тады зноў, запэўніваю вас, заблішчаць на гэтай некалі слаўнай сцэне яркія «зоркі», з'явяцца свае нацыянальныя героі.

**Маналогі запісала Таццяна АНТОНАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: такой была трупа Беларускага дзяржаўнага тэатра ў 1924 годзе; сцэна са спектакля-вадэвіля «Ажаніцца не журыцца».**

**Фота У. ШУБЫ.**

# ПА ЗВЫЧАЯХ І ЗАКОНАХ ПРОДКАЎ СВАІХ

## (АДКРЫТЫ ЛІСТ А. І. САЛЖАНІЦЫНУ)

ШАНОЎНЫ Аляксандр Ісаевіч! З цікавасцю прачытаў некалькі разоў Вашае эсэ «Як нам упарадкаваць Расію?». Спрадвечная праблема ўсходніх славян, як бачым, і сёння не менш актуальная, чым тысячагоддзе назад. І тады, як ладае летапіс, «не было ў іх праўды, і паўстаў род на род». І вымушаны яны былі, згодна таго ж летапісу, у пошуках ратунку пасылаць паслоў за мора, «да варагаў, да русі»: «Зямля наша вялікая і шчодрая, а парадку ў ёй няма, ідзіце княжыць і валодаць намі». Штосьці падобнае адбываецца сёння ў нашай краіне. Адсюль і вострая цікавасць да Вашых думак, разважанняў, прапаноў.

Па меры асэнсавання зместу і агульнай палітычнай накіраванасці Вашага эсэ, шчыра кажучы, урачыстая ўзрушанасць саступіла месца насцярожанасці, а затым здзіўленні і расчараванню. Вашыя «пасільныя меркаванні» ўскалыхнулі ў душы супярэчлівыя пачуцці: і са знакам плюс, і са знакам мінус. Божа мой, няўжо гэта Салжаніцын? Праўдалюбец, гуманіст, палымяны прыхільнік справядлівасці і абыльганай праўды? Што ж, відаць, на цярністай дарозе да ісціны ёсць перашкоды, пераадолець якія не заўсёды здольны нават і геній... Але нічога не зробіш — се ля ві...

Вы прадбачылі непазбежнасць неадназначнай рэакцыі чытача. Адсюль і пытальнік у назве брашуры, і слова «меркаванні» ў падзагалоўку. Адсюль і адчуванне Вамі хісткасці сваіх некаторых пазіцый. Што ж, так звычайна бывае, калі чалавек замест аб'ектыўнага аналізу ўсёй сукупнасці фактаў, прасейвае іх праз густое сіта сваіх сімпатый і антыпатый і запаўняе імі загадзя сканструяваную схему. Вы гэта добра разумееце і дзеля змякчэння рэакцыі чытача прапануеце: «Давайце шукаць», напісанае мною, маўляў, «не прэтэндуе ні на якую канчатковасць, а толькі стварае глебу для абмеркавання».

Прымаючы запрашэнне да дыялога, неабходна паставіць толькі адну ўмову: у часе размовы ўлічваць не адны толькі думкі «рускіх дзеячаў розных часоў», як прапаноўваеце Вы, а браць пад увагу погляды і меркаванні і прадстаўнікоў навукі іншых народаў. Яшчэ старажытныя рымляне раілі: «Няхай будзе выслухана і другая старана».

Вашая прапанова сумеснага пошуку ісціны надае смеласць, рашучасць і маральнае права адкрыта выказваць свае адносіны да выкладзенага Вамі магчымага напрамку далейшага развіцця Расіі і паасобных рэспублік, у прыватнасці Беларусі, якой Вы разам з Украінай прысвяцілі ажно асобны раздзел «Слова да ўкраінцаў і беларусаў», яго, уласна, аднаго і датычыцца гэты ліст.

Пры чытанні Вашага «Слова да ўкраінцаў і беларусаў» у памяці чамусьці ўсплыло Мандэльштамавае: «Товарищ Сталин, вы большой учёный, в марксизме знаете вы толк, а я, простой советский заключенный, и мне товарищ брянский серый волк». Вы і я? Постаці мала суразмерныя: гранітная глыба пульсуючага згустка думкі і аўтарытэта, што велічна навісае над усімі мацерыкамі зямной кулі, і малюпенькая пясчынка на адвечна змрочным дне сусветнага акіяна... Таму не папракайце мяне за магчыма празмернае выкарыстанне гістарычных крыніц. Пагадзіцеся, я магу супрацьпаставіць націску Вашага аўтарытэта толькі канкрэтныя сведчанні нашых прашчураў, на якіх Вы спасылаецеся.

Пачнём, ідучы за Вашым прыкладам, з каранёў і возьмем адну толькі праблему, якую Вы з непадлеглай сумненню ўпэўненасцю выказалі ў сказе: «Да наш народ и разделялся на три ветви лишь по грозной беде монгольского нашествия да польской колонизации... Мы все истекли из драгоценного Киева», откуда русская земля стала есть», по летописи Нестора, откуда и засветило нам христианство». Па-вашаму выходзіць, што да прыходу манголаў акрамя рускіх нікога не існавала і толькі яны падзялілі адзіны дагэтуль народ на тры адгалінаванні. Выходзіць, Вы цалкам прымаеце тэорыю артадаксальных гісторыкаў аб існаванні так званай «адзінай старажытнарускай народнасці», якая быццам бы ўтварылася ў межах Кіеўскай Русі.

А ці так гэта, паважаны Аляксандр Ісаевіч? Хіба ад механічнага падзелу таго ці іншага этнасу можа ўтварыцца некалькі, у нашым выпадку тры, асобныя народы? Чамусьці такая метамарфоза не адбылася з немцамі і карэйцамі, напрыклад, якіх другая сусветная вайна падзяліла на два супрацьлеглыя і да ўсяго палітычна варожыя лагеры. Згодна Вашай этнічнай схемы, насельніцтва княстваў, якое пасля мангольскага нашэсця апынулася ва Урускім улусе Залатой Арды, магутнай дзяржавы сцепнякоў, стала рускім, а жыхары астатніх усходнеславянскіх земляў у межах новастворанага Вялікага княства Літоўскага трансфармаваліся ў беларусаў і ўкраінцаў.

Дазвольце спытацца, якім чынам магло так атрымацца? Згодна афіцыйным уяўле[illegible], у адных і тых жа палітыч[illegible] і сацыяльна-эканамічных умовах павінен быў сфарміравацца толькі адзін, а тут раптам выскачылі, бы Піліп з канапель, адразу два этнасы. Або возьмем, да прыкладу, стракатае па этнічнаму складу насельніцт[illegible]лыні, Падолля, Кіева і вял[illegible]х сцяпных абшараў аж да Крыма і вусця Дона. Яно падобна княствам Уладзіміра-Суздальскай зямлі знаходзілася з 1240 года да 1362 года пад мангольскім прыгнётам, але не стала рускім, захавала сваё ранейшае этнічнае аблічча. Адным словам кажучы, украінская народнасць здолела насуперак навукоўцам-артадоксам сфарміравацца ў супрацьлеглых палітычных умовах — адна частка ў межах Вялікага княства Літоўскага, другая — у складзе Залатой Арды.

Сама па сабе напрошваецца выснова: беларусы і ўкраінцы яшчэ задоўга да мангольскага нашэсця мелі акрэсленае этнічнае аблічча, асноўныя этнавызначальныя рысы якога ўзыходзяць да племяннога перыяду існавання ўсходніх славян. Такі погляд на этнагенез беларусаў далёка не новы, яго падзялілі, між іншым, шмат якія вядомыя гісторыкі. Паводле У. Перцава, М. Доўнар-Запольскага, Я. Карскага, напрыклад, беларуская народнасць склалася на племяннной аснове крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў, а такія вядомыя гісторыкі, як М. Пагодзін, М. Каяловіч, М. Кастамараў, У. Антановіч, адносілі існаванне беларусаў у перыяд да ўтварэння Кіеўскай дзяржавы.

Сучасны рускі вучоны В. Сядоў на падставе канкрэтных археалагічных матэрыялаў пацвердзіў тэзіс, што фарміраванне некаторых этналінгвістычных асаблівасцей беларусаў адбывалася пры пэўным удзеле балцкага субстрата, пра што, дарэчы, сведчыць і тапаніміка Беларусі.

А цяпер неабходна вярнуцца крыху назад, у той час, калі, па Вашаму сцвярджэнню, існаваў адзіны рускі народ, а па тэрміналогіі артадаксальных гісторыкаў, «адзіная старажытнаруская народнасць».

Звернемся, раз Вы яго спамянулі, да Нестара, аўтара «Аповесці мінулых гадоў», і паглядзім, што і як пісаў кіева-пячорскі чарнец пра прашчураў сучасных беларусаў: «А радзімічы... адзін звычай мелі: жывучы ў лясах, бы звяры, елі ўсё нячыстае і брыдкаслоўе было ў іх перад бацькамі і перад нявесткамі, і шлюбу не было ў іх, а ігрышча паміж сёламі. І збіраліся яны на ігрышчы, на скокі, на ўсе бясоўскія забавы, і тут умыкалі жонак сабе... Мелі яны па дзве і па тры жонкі... Такія ж звычаі выконваюць і крывічы, і іншыя паганыя, не ведаючы закону божага, бо твораць самі сабе закон».

Скажыце, шчыра паклаўшы руку на сэрца, Аляксандр Ісаевіч, ці пісаў бы такое Нестар пра свой народ, пра народ, да якога ён сам належаў? Думаецца, што не. Для сваіх суплеменнікаў летапісец знаходзіць іншыя фарбы: «Паляне жылі асобна і валодалі родамі сваімі... мелі звычай продкаў, ціхі і лагодны, і пачцівасць да нявестак сваіх, і да сясцёр, і да матак, і нявесткі да свякрух і дзевераў вялікую пашану мелі. І вясельны звычай мелі яны... Былі яны мудрымі і кемлівымі і называліся палянамі, паляне ў Кіеве і па сённяшні дзень».

Як бачым, яшчэ ў XII стагоддзі Нестар пры характарыстыцы палян выкарыстоўвае прыкметы той устойлівай сукупнасці людзей, якую сучасная навука называе этнасам, выразна вылучае іх з агульнай масы ўсходніх славян. Летапісец супрацьпастаўляе палян крывічам і радзімічам, успрымае апошніх як чужародныя і самастойныя супольнасці са сваімі асобнымі і непадобнымі на палянскія традыцыямі, культурай, сваім адметным псіхалагічным складам характару і сваім звычаёвым правам.

Абагульняючы свой аповяд, ён так і піша: «Бо мелі свае звычаі і законы продкаў сваіх і паданні, кожны меў свой нораў». У наяўнасці не што іншае як антытэза: «Мы» — «яны», якая заўсёды выступае ў якасці неадменнай этнавызначальнай прыкметы этнічнай грамадскасці, што ўсведамляе сваё адзінства і выразна адрознівае сябе ад іншых супольнасцяў.

Якія ж тыпы этнасацыяльнай агульнасці прайшлі ў сваім развіцці крывічы, дрыгавічы і радзімічы?

Адным з першых трэбаназваць племя — сукупнасць родаў, злучаных паміж сабою агульнымі рысамі матэрыяльнай і духоўнай культуры і ўсведамленнем агульнасці паходжання. Племені ўласціва адзінства рэлігійных уяўленняў, абрадаў і наяўнасць уласнага імя. Затым ідзе буйное тэрытарыяльна-палітычнае аб'яднанне — племянны саюз. Ва ўсходніх славян яны ўзніклі ў VI — VIII стагоддзях. Паколькі, паводле сучасных навуковых уяўленняў, за племенем неабходна ідзе народнасць, мы павінны, калі прытрымлівацца законаў элементарнай логікі, паставіць знак роўнасці паміж племянным саюзам і народнасцю. У IX — X стагоддзях крывічы, дрыгавічы і радзімічы, непасрэдныя прашчуры беларусаў, мелі гэтак жа, як і паляне, свае ўласныя княжанні: «Пасля гэтых братоў (Кій, Шчэк і Хорыў) пачаў іхні род трымаць княжанне ў палян... А ў дрыгавічоў сваё... А другое на рацэ Палоце, дзе палачане».

Ужо тады, як бачым, былі закладзены асновы дзяржаўнасці крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў, на працягу стагоддзяў яны захоўвалі самаісты трыб жыцця, мелі сваіх валадароў, сваё войска, канкрэтную тэрыторыю рассялення. Як вядома, ніводная супольнасць не здатна стварыць устойлівага дзяржаўнага ўтварэння без усведамлення свайго этнічнага адзінства. Аб устойлівай моцы этнічнай самасвядомасці продкаў сучасных беларусаў сведчыць той факт, што яшчэ ў другой палове XIX стагоддзя, а калі быць скрупулёзна дакладным, у 1860 годзе, звыш 23 тысяч дарослых жыхароў Віленскай губерні назваліся пры апытанні крывічамі. Надзвычай цікавая інфармацыя для роздуму. А Вы, Аляксандр Ісаевіч, пішаце: «В Литве и Польше белорусы и малороссы сознавали себя русскими...». Заадно заўважу: беларусы і ўкраінцы за нявартым увагі выняткам ніколі не жылі ў Літве, а на сваіх спрадвеку вячыстых землях, у сваёй дзяржаве — Вялікім княстве Літоўскім. Не жылі яны і ў Польшчы, а ў Рэчы Паспалітай, у склад якой уваходзілі Польшча і Вялікае княства Літоўскае.

Паляне, крывічы, дрыгавічы, радзімічы, вяцічы, севяране і іншыя ўсходнія славяне добра памяталі, як сведчыць летапісец, не толькі пра роднасць паміж сабою, але і не горш, чым мы сёння, ве[illegible]і пра адзіныя генетычныя [illegible]кі з заходнімі і паўднёвымі славянамі: маравамі, чэхамі, ляхамі, напрыклад, бо ў далёкім мінулым «быў жа адзін народ славянскі». Разам з тым кожнае славянскае адга[illegible]ванне летапісец заўсёды [illegible]ывае па этнаплямянному імені, падкрэсліваючы гэтым іхнюю асобнасць. Цікавая акалічнасць: называючы іх паймення, ён упэўнены, што сучаснікі зразумеюць яго, сумненне ўзнікае толькі пры ўпамінанні палян, якія пасля захопу Алегам Кіева змянілі сваё найменне. Таму Нестар палічыў неабходным удакладніць: «...і паляне, якіх цяпер завуць русь». Астатнія, як бачым, русью тады не зваліся.

Буйныя племянныя саюзы крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў праіснавалі не менш паўтысячагоддзя. І толькі прадузяты даследчык, які з той ці іншай прычыны замоўчвае ці свядома скажае гістарычныя факты, можа сцвярджаць, што ў іх за гэты велічэзны прамежак часу не склалася свая матэрыяльная і духоўная культура, звычаі, абрады, копнае судаводства, мова, адным словам, усё, што ўласціва ўстойліваму тыпу пэўнай грамадска-палітычнай супольнасці.

Апалагеты афіцыйнай гістарыяграфіі мову старажытных продкаў беларусаў і ўкраінцаў называюць «асобным моўным дыялектам», бо інакш рушыцца вялікадзяржаўная тэорыя «адзінай старажытнарускай народнасці». Прыём не новы. Яшчэ ў XIX стагоддзі прыхільнікі «адзінай і недзялімай Расіі» мову беларусаў і ўкраінцаў называлі не інакш, як «наречием великорусского языка». Усе славянскія мовы захавалі ў тым ці іншым лексічным аб'ёме праславянскую аснову і таму шмат у чым падобны. Але гэтае падабенства ні ў якім разе не з'яўляецца падставай для аб'яўлення той ці іншай мовы другарадная ці правінцыяльнай гаворкай. Беларуская мова наўздзіў блізкая з мовамі многіх заходніх славян, напрыклад, са славацкай, з якой яна падобная больш, чым з рускай, але ніхто ніколі не залічваў яе ў дыялекты. Ніхто ніколі не сумняваўся ў самастойным статусе іспанскай, італьянскай і французскай моў, хаця ў іх адна раманская аснова і не меншае падабенства паміж сабою, чым беларускай, украінскай і рускай моў.

Якраз згадаўся мімаходам кінуты Вамі сказ: «искаженный украинский ненародный язык». Хіба гэта так, Аляксандр Ісаевіч? Вы ж самі добра ведаеце, што на гэтай «ненароднай» мове размаўляе некалькі дзесяткаў мільёнаў людзей. Ужо ў сілу толькі гэтай акалічнасці ён не можа быць ненародным. І не «искаженная... немецкими и польскими словами» мова таленавітага ўкраінскага народа, нават у Заходняй Украіне. Вы самі, зноў жа, някепска ведаеце, што адным са шляхоў развіцця кожнай без выключэння мовы з'яўляецца запазычванне асобных слоў у суседзяў. Так было, так ёсць і так будзе. Калі ўзяць рускую мову, якую Вы, калі меркаваць па Вашых выказваннях, лічыце стэрыльна чыстай, дык невядома ў адносінах да чаго яна чыстая? Менавіта руская мова ў параўнанні з беларускай і ўкраінскай найбольш, калі падыходзіць з Вашай меркай, забруджана «чужароднай» лексікай, напрыклад, фіна-угорскай і цюркскай. Адтуль «і ўра, што ў манголаў абазначае бі, сячы, а ў нас вокліч народнай радасці».

Каб пазбегнуць абвінавачвання ў прадузятасці, звернемся да найбольш аўтарытэтных рускіх навукоўцаў. Этнограф і фальклярыст І. Прыжоў: «Татаршчына адкрыецца, калі гісторыя раскажа нам змену старажытнага рускага адзення на тую татарскую, якая пакрывала нашых продкаў з галавы да ног: башмак, азям, армяк, зіпун, чадыш, кафтан, учкур, башлык, клабук, таф'я, ляк і г. д.». Горад Масква, піша І. Прыжоў, паходзіць ад аднайменнай фінскай назвы ракі «Моск-ва», у перакладзе «Мутная рака». Па падліках акадэміка А. Шахматава, які займаўся гістарычным мовазнаўствам, з усіх слоў на літару «А» толькі чатыры рускія. Выходзіць, аб «австрийской подтравке» не варта спамінаць, бо гэта нявыгадна перш за ўсё «старэйшаму брату», мова якога склалася пазней беларускай і ўкраінскай.

Але пакрочым далей, туды, дзе зарадзіліся карэнні імперскай псіхалогіі, семя якой поўнай жменяй кінулі ў шчодрую кіеўскую зямлю варагі Карлы, Інягельд, Фарлаф, Верамуд, Рулаў, Гуды, Руалд, Карн, Фралаў, Актэву, Труан, Лідул, Фост, Сцемід, што пацяснілі палянскую знаць і занялі кіруючыя пасады пасля захопу Кіева Алегам. Усходнія славяне, якія дагэтуль «жылі ў міры», уступілі ў працяглую паласу канфрантацыі з Кіевам, а затым і паміж сабою.

Ужо ў 883 годзе, на другі год пасля ўсталявання на палянскім прастоле, Алег пад уздзеяннем ласага на нажыву варажскага асяроддзя пайшоў «ваяваць супраць драўлян і, прымучыўшы іх, пачаў браць з іх даніну па чорнай куніцы». Менавіта тут, у канцы IX стагоддзя, трэба шукаць парасткі таго тыпу палітычнай свядомасці, якая пазней будзе ўзята на ўзбраенне Маскоўскай дзяржавы і атрымае назву імперскай, і, як слушна гаворыць рускі гісторык Ю. Левада, «была характэрна ў розныя часы для розных грамадстваў, а для Расіі — ці не з самага пачатку яе дзяржаўна-цэнтралізаванага існавання і да сённяшніх дзён», бо, працягвае далей вучоны, у наш час «ні змяненні ў назвах, ні змяненні ў складзе палітычных эліт і ідэалагічнай сімволікі не закранулі імперскую мадэль дзяржавы ні ў адным з яе вымярэнняў».

**Станіслаў ЦЯРОХІН,**
**навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.**

(Заканчэнне будзе).

*ШТО МАЕМ, НЕ ЗАХОЎВАЕМ?..*

# СТАРЫ МЛЫН

Стары млын... Ён ужо не «круціцца-верціцца», як спяваецца ў песні. Глуха шуміць вада, узбіваючы пену пад напалову струхлелым, паўразбураным мастом і быццам злуючыся, што ў яе аднялі радасць круціць вялізныя колы з лопасцямі, якія прыводзілі ў рух млыновыя жорны і пілы, шасцерні ваўначоскі і крупарушкі. Што за мяккую муку вывозілі адсюль сяляне, якія прыязджалі малоць зерне з навакольных, блізкіх і не вельмі, вёсак! Што за дошку атрымліваў цясляр, які дастаўляў на распілоўку бервяно проста з лесу — і абразную, і абгабляваную, і, па жаданню, выбраную ў «чвэрць»: бяры і прыбівай, упрыгожвай дом.

Нічога гэтага больш няма.

Жыхары маленькай (шэсць чалавек на сем дамоў) вёсачкі Навaполле, што ў Стаўбцоўскім раёне, не тое каб удзячныя — яны проста шчаслівыя, што і да іх, нарэшце, стала прыязджаць аўталаўка і прывозіць хлеб. Няхай нават адзін раз на тыдзень. Адпаў клопат цягаць боханы на сабе за чатыры з паловай кіламетры — не кожнаму па сіле дарога з такой паклажай ад бліжэйшага магазіна. Праўда, крупы, муку, цукар насіць даводзіцца і цяпер (па талонах аўталаўка з райцэнтра не прывозіць), але гэта хоць не так часта. Горш, калі захварэе хто: да бальніцы ў Засулле 12 кіламетраў — паспрабуй дабярыся.

А быў жа час — і аб гэтым жыхары Навaполля любяць успамінаць,—калі хадзіць у такую даль ім і не патрэбна было: праз іх вёску рэгулярна курсіраваў маршрутны аўтобус. За паўгадзіны можна было даехаць да Стоўбцаў. Моцны яшчэ быў драўляны мост цераз Сулу, і жыхары Навaполля мелі сувязь з суседзямі па другі бок ракі. Тыя, у сваю чаргу, былі частымі гасцямі ў іх. І перш за ўсё таму, што працаваў млын.

Усё жыццё тутэйшага насельніцтва, можна сказаць, было звязана з ім. А маленькае Навaполле было абавязана яму і сваім нараджэннем. Тут жылі патомныя млынары, людзі, прыстаўленыя да промыслаў, што спадарожнічалі млынарнаму, а таксама пілавальшчыкі лесу, майстры па дрэву. У 1915 годзе замест драўлянай будовы, якая ці то спарахнела, ці то згарэла, быў узведзены будынак з чырвонай цэглы. Хто будаваў — невядома, а што гаспадаром млына быў Мікалай Шанец, людзі ў тутэйшых вёсках памятаюць. Нядрэнны быў чалавек. Дапамагаў, калі ў каго карова ці конь здохнуць, з партызанамі ў час вайны трымаў сувязь, хлебам іх карміў. Шкада толькі — ужо ў пяцідзесятыя гады яго прызналі кулаком, забралі маёмасць, а самога з сям'ёй некуды саслалі. Больш падрабязна пра гэта можа расказаць яго сын — ён жыве ў Мінску.

Іван Шанец, вядучы інжынер-канструктар аднаго з мінскіх прадпрыемстваў, ахвотна згадзіўся сустрэцца, расказаць пра бацьку, успомніць пра сваё жыццё.

— Я нарадзіўся ў 1934 годзе, калі бацьку ішоў пяты дзесятак, — пачаў Іван Мікалаевіч, — таму пра многія моманты яго жыцця магу гаварыць толькі з яго слоў. Ведаю, што ён скончыў у свой час Пецярбургскі універсітэт, працаваў выкладчыкам у Варонежы, быў удзельнікам рэвалюцыйных падзей. Захавалася, напрыклад, пасведчанне аб тым, што ў 1920 годзе бацька служыў кантралёрам Адэскага раённага аддзела Рабоча-Сялянскай Інспекцыі Кіеўскай Ваеннай Акругі. Пасля грамадзянскай вайны вярнуўся да бацькоў на млын у Навaполлі. Працаваў з дзедам, а затым, відаць, сам стаў гаспадаром. І пасля, калі прыйшла Чырвоная Армія, заставаўся там жа. У час вайны дапамагаў партызанам.

Іван Мікалаевіч паказвае даведку: «Выдадзена грамадзяніну Шанец Мікалаю Іванавічу, які жыве ў вёсцы Навaполле Стаўпецкага раёна. Даны грамадзянін аказвае дапамогу партызанам у справе матэрыяльнага забеспячэння, адначасова з'яўляецца агентам партызанскай разведкі.

Даведка выдана 21 кастрычніка 1943 года».

Невялікі аркуш паперы, злёгку пажаўцелы ад часу, дакумент суровай ваеннай пары... Занадта дарагі ён быў для таго, хто яго захоўваў. Бо калі б ён трапіў у рукі акупантаў, не мінуць бы Мікалаю Іванавічу лютай расправы.

Акрамя гэтай, захаваліся і іншыя даведкі, але яны не дапамаглі. Пасля вайны Мікалая Іванавіча прызнаюць кулаком. Загадалі грузіцца і вывезлі ў Казахстан. Там ён і памёр.

Пазней сям'я вярнулася ў Беларусь. Івану Мікалаевічу давялося выкупіць у калгаса струхлелы домік бацькі, каб не даць пабудове разваліцца зусім. Але не могуць раўнадушна глядзець на разбурэнні, запусценне вёскі і яе ваколіц астатнія жыхары Навaполля. Таму што яшчэ да 1976 года млын працаваў. Дзейнічала і лесапілка, што дало магчымасць райпрамкамбінату нават адкрыць тут цэх па вырабу мэблі. Цяпер жа за мукой і крупамі трэба ісці ў магазін за некалькі кіламетраў, а каб распілаваць бервяно на дошкі, трэба ехаць яшчэ далей. І не толькі навапольцы — пакутуюць жыхары многіх вёсак.






**НА ЗДЫМКАХ: каваны знак захаваў дату нараджэння млына; пазарасталі сцежкі-дарожкі.**

**Фота А. МІКАЛАЕВА.**



*СПОРТ*

# ДЗЕНЬ НАДЗЕІ, ДЗЕНЬ ТРЫВОГІ

Суровыя законы спорту: дзень на дзень не падобны. І калі зборная СССР па футболу адпраўлялася на адборачны матч першынства Еўропы ў Італію, то мала хто верыў, што нашы спартсмены выстаяць супраць грознага саперніка. Сапраўды, яшчэ добра захоўваецца ў нашай памяці ліпеньскі чэмпіянат свету. Там футбалісты СССР не змаглі прайсці нават першы бар'ер — выбылі з барацьбы пасля папярэдніх гульняў. А вось італьянцы сталі прызёрамі. Яны захавалі поўнасцю свой састаў. А савецкая каманда цяпер створана нанава, з'явілася шмат дэбютантаў, не хапіла часу, каб праверыць сябе ў сустрэчах з моцнымі сапернікамі. Змяніўся і галоўны трэнер.

І тым не менш менавіта італьянцы 3 лістапада ў сябе на полі ледзь-ледзь не прайгралі нашай зборнай. Гульня завяршылася ўнічыю — 0:0. Не дапамог гаспадарам і лепшы ігрок апошняга чэмпіянату свету Скілачы. Затое ў савецкай камандзе самых добрых слоў заслужылі маскоўскі дынамавец Ігар Дабравольскі, футбалісты, якія цяпер выступаюць у італьянскіх клубах — кіяўлянін Аляксей Міхайлічэнка і мінчанін Сяргей Алейнікаў.

Кароткае рэзюме трэнера зборнай СССР Анатоля Бышаўца:

— Сяргей Алейнікаў згуляў надзейна і граматна ў паўабароне. Я папрасіў яго рыхтавацца да наступнага матча — з венграмі. Такія ігракі, як Сяргей, і патрэбны для таго, каб стварыць высокакласную каманду...

А праз дзень у беларускай сталіцы прайшоў першы матч адной восьмай фіналу Кубка уладальнікаў кубкаў еўрапейскіх краін па гандболу. Сустракаліся мінскі СКА і венгерскі клуб «Ваеў-Брамак». Адразу назавём лік гульні — 28:27 на карысць нашых спартсменаў. Аднак гэты вынік не толькі не прынёс задавальнення, але і выклікаў вялікую трывогу.

Так, сапернік вельмі моцны. Трэніруе венгерскі клуб савецкі трэнер Валерый Мельнік. Галоўную моц каманды складаюць таксама савецкія спартсмены: Сазанкоў, Жытнікаў, Зубюк. Некалі яны гулялі за шматразовых чэмпіёнаў краіны армейцаў Масквы.

Зусім іншая сітуацыя склалася цяпер у СКА. Пакінуў каманду (і магчыма назаўсёды!) дыскваліфікаваны Аляксандр Тучкін — лепшы нападаючы сусветнага гандбола. Закончылі выступленне некалькі ветэранаў. Моладзь жа пакуль не змагла дастойна замяніць іх... Адным словам, ад нядаўняга клуба, які многія гады безагаворачна ўладарыў ва ўсіх розыгрышах еўрапейскіх турніраў, мала што засталося. І таму выйгрыш у першым матчы ў венграў з мінімальным лікам дае падставы для песімізму. Дома сапернікі гуляюць заўжды мацней, чым у гасцях. Але, як кажуць, надзея памірае апошняй. Спадзяёмся, што беларускія гандбалісты ў паўторным матчы згуляюць добра і выйдуць у наступны этап.

Апошняя, але цяпер ужо вельмі прыемная навіна. У Аўстраліі завяршыўся чэмпіянат свету па акадэмічнаму веславанню. Пяць беларускіх спартсменаў абаранялі гонар нашай Радзімы. Асаблівага поспеху дамогся мінчанін С. Кінякін, які трэці раз стаў чэмпіёнам свету.


РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**

220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі

Індэкс 63854. Зак. № 1465.